# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 4 (674) 26 СТУДЗЕНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.


## ЯК УПЛАЧВАЦЬ АХВЯРАВАННІ НА ПАБУДОВУ БЕЛАРУСКАГА МУЗЕЯ

Мы ўжо не раз інфармавалі, што збіраюцца грошы на пабудову беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы. Але яшчэ не ўсе чытачы ведаюць, куды трэба слаць ахвяраванні. Таму падаем банковае конта Камітэта пабудовы беларускага музея, на якое і трэба слаць грошы:

Społeczny Komitet Budowy Białoruskiego Muzeum Regionalnego w Hajnówce. Konto: N.B.P. w Bielsku Podlaskim 103-83-171-236, Bank Spółdzielczy w Hajnówce 6-10.

## БГКТ

### ШТО ЗРОБЛЕНА

На пасяджэнні прэзідыума аддзела БГКТ у Саколцы 12-га студзеня была падсумавана дзейнасць праўлення за мінулы 1968 год і накрэслены план працы на гэты год. Прыпомнім у гэтай публікацыі некаторыя факты з плана працы мінулага года.

І так, 25 гурткоў БГКТ на Сакольшчыне аб'ядноўвае 405 членаў. Да найбольш актыўных залічаюцца гурткі Беларускага таварыства ў Слоі (старшыня Іван Меляховіч), Кнышэвічах (старшыня Зоя Кастэцкая) і ў Новым Востраве (старшыня Іван Грыц).

У апошнім часе члены БГКТ у Слоі бралі ўдзел у грамадскім чыне пры рамонце дарогі, а таксама многа стараліся, каб у вёсцы была арганізавана клубакавярня. У Кнышэвічах і Новым Востраве моладзь горнецца да аматарскага руху. Вядома, што тут вялікая дапамога настаўнікаў. Варта таксама падкрэсліць належнае супрацоўніцтва гэтых гурткоў з гурткамі Саюза сялянскай моладзі.

Да найлепшых мерапрыемстваў аддзела ў мінулым годзе трэба залічыць вечарыны з нагоды 50-ай гадавіны Савецкай Арміі, якія адбыліся ў Крушынянах, Суковічах, Ласінянах, Азяранах і Кнышэвічах.

Добрым быў таксама фестын Беларускага таварыства ў Гурцы. Зараз на Сакольшчыне беларуская мова навучаецца ў 12 пачатковых школах. З настаўнікамі гэтых школ аддзел утрымоўвае цесныя кантакты. Аддзел мае пэўную групу актывістаў, якія абслугоўваюць гурткі на вёсках і заўсёды яны праяўляюць многа ініцыятывы. Гэтымі людзьмі з'яўляюцца: Аляксандр Рафаловіч, Аляксандр Казлоўскі, Анатоль Сакалоўскі, Іван Мікуць, Іван Грыц і іншыя.

Вось гэта некаторыя факты з дзейнасці аддзела ў мінулым годзе.

### ЁЛКА, АКАДЭМІЯ, ВЕЧАРЫНА

■ 12 студзеня гарадскі аддзел у Беластоку арганізаваў ёлку для дзяцей, бацькі якіх з'яўляюцца членамі Беларускага таварыства. У вялікай зале ГП весела гуляла 73 дзяцей, якім пасля дзед Мароз уручыў падарункі. Многія дзеці чыталі беларускія вершы і спявалі песні.

■ Вечарам 12 студзеня з ініцыятывы гарадскога аддзела адбылася акадэмія прысвечаная 50-ай гадавіне БССР. З дакладам аб гістарычным шляху і дасягненнях БССР выступіў сакратар ГП Уладзімір Юзвюк. Пасля акадэміі дэманстраваўся савецкі фільм «Чырвонае лісце».

■ 13 студзеня адбылося пасяджэнне праўлення гарадскога аддзела. Яно адрознівалася ад усіх іншых пасяджэнняў тым, што пачалося дакладам сакратара ГП Уладзіміра Юзвюка на тэму: «Напрамкі гаспадарчага развіцця БССР».

Другім пунктам павесткі дня была справаздача старшыні гарадскога аддзела Кастуся Масальскага з дзейнасці БГКТ у Беластоку ў 1968 годзе.

На гэтым жа пасяджэнні быў таксама зацверджаны план працы аддзела на першае паўгоддзе. З нагоды 50-ай гадавіны БССР пасля пасяджэння адбылася вечарына, у якой узяло ўдзел шмат актывістаў БГКТ горада Беластока.

### ПАДРЫХТОЎКА ДА КАНФЕРЭНЦЫЙ

Ужо ў гуртках Беларускага таварыства пачаліся справаздачна-выбарчыя сходы. Таксама ўсе 9 аддзелаў БГКТ рыхтуюцца зараз да справаздачна - выбарчых канферэнцый.

(мх)

## ВЕЧАРНІЦА Ў 50-ТУЮ ГАДАВІНУ БССР

Урачыстай вечарніцай назвалі арганізатары — Ваяводскае праўленне ТППР — мерапрыемства, якое адбылося з выпадку 50-ай гадавіны БССР.

Гасцінная зала клуба ТППР на вуглу Ліповай і Сянкевіча ў Беластоку (тая самая, дзе адбыўся I з'езд БГКТ) была запоўнена. Даволі было глянуць на залу, каб пераканацца, што пераважала тут моладзь. Першыя рады занялі прадстаўнікі партыйных і дзяржаўных улад. Адбылося без прэзідыума і ўрачыстай апразы. Можа гэтак і лепш, больш па-сямейнаму... Паўгадзінны даклад даў у сціслай форме суму ведаў аб развіцці і дасягненнях БССР. Мо якраз гэтая сціслая форма даклада і прычынілася да таго, што слухач (у даным выпадку малады) мог знайсціся ў захапленні ад дасягненняў свайго найбліжэйшага суседа.

Інфармацый ніколі не замнога, а вечарына ў 50-ую гадавіну БССР дала яе нямала.

Даклад чытаў старшыня ваяводскага праўлення ТППР і пасол **Ян Рызнар.**

У мастацкай частцы выступілі дзве эстрады: Клуб савецкай песні Ваяводскага праўлення ТППР у Беластоку і «Лявоніха» Галоўнага праўлення Беларускага таварыства ў Беластоку.

Нельга сказаць, што гэта нават падобныя калектывы, хоць і адны, і другія спяваюць перш за ўсё савецкія песні. Супастаўленне выпала цікава. Не трэба казаць, што хацелася мне, каб лепш выпала «Лявоніха» і каб яна сабрала больш воплескаў (так і было), але мае адносіны ў даным выпадку былі чыста пачуццёвымі. Я рашучы прыхільнік формы выканання песні, якую прадстаўляе Клуб савецкай песні. Не месца тут тлумачыць, чаму? У двух словах толькі, бо я прыхільнік прагрэсу і сучаснасці, а не традыцыі, якая для мяне спалучаецца з застоем і самауспакоеннем. Не абазначае гэта, што мая рацыя. Рацый столькі, колькі людзей. Большыя воплескі для выканаўцаў «Лявонiхі» (у маладых жа) сведчаць якраз аб гэтым. На плюс «Лявонісе» трэба запісаць, што ўмее ўносіць на сцэну атмасферу непасрэднасці. Дуэты і квартэты, з якімі паказалася, таксама добра аддаюць дух рускай і беларускай песні, а зацяжнасць — гэта ж традыцыйная рыса ўсіх усходнеславянскіх напеваў. «Лявоніха» не адрываецца ад традыцый. А ў сямімілёвых кроках нашай урбанізацыі гэта можа быць атутам. Прэтэнзію маю толькі, што «Лявоніха» не прадставіла беластоцкай публіцы сваіх найлепшых нумараў з перыяду яе найбольшага росквіту.

**Вера Леўчук**



**Кніга адкрывае дзверы ў свет. Тры бібліятэкі ў горадзе, гарадская, педагагічная і партыйная, даюць шырокі доступ да яе.**




На тэму кароткай у часе гісторыі горада Гайнаўкі можна б напісаць доўгую манаграфію. Горад, у якім змешчваюцца астаткі ўчарашняй вёскі і будучага (а нават ужо існуючага) прамысловага цэнтра. Такое сутыкненне відаць тут на кожным кроку: у вуліцах, дамах і ў людзях. Людзі?.. Гэта тысячы працоўных горада, старэйшых і маладых рабочых.

Закончыўся гайнаўскі дзень працы. Засвяціліся дзе-нідзе простыя неоны. У зарыве гарадскога (электрычнага) святла рысуюцца коміны заводаў, нібы спрачаюцца з суседнімі ялінамі, хто вышэйшы. Сцяна белавежскага лесу рысуецца выразна і суцэльна. Прылягае да самага горада. У цемені вечара як бы набліжаецца і прыдае вячэрняму гораду ўтульнасць і зацішша.

У вячэрняй Гайнаўцы старэйшыя прымаюць малы ўдзел. Гайнаўка — добры прыклад нізавой ініцыятывы маладых у актывізацыі свайго маладога горада.

Гайнаўка мае свае дамы культуры, так званыя прызакладовыя: Ляснік і Гурнік. Апошні пашырыў сваю функцыю стаючыся домам культуры. Абодва гэтыя дамы культуры — гэта камбінаты ў сэнсе культурна-асветнай дзейнасці і адпачынку. Абодва маюць утульныя кафэ, выгодныя пакоі для розных заняткаў. Абодва пачынаюць бурліваe жыццё ад 17 гадзіны, значыць вечарам, значыць пасля працы. Трэці камбінат грамадскай культурна-асветнай дзейнасці змяшчаецца ў Доме настаўніка, з моднай кавярняй у падзямеллі.

Найбольш амбітныя планы і намеры родзяцца ў Гайнаўцы ў кругу людзей вакол Дома настаўніка. Вывад з гэтага такі, што гайнаўскія настаўнікі ствараюць групу найбольш творча неспакойных людзей. Іх дэвіз — трэба многа рабіць — для сябе, для людзей, для горада.

Шукаюць сваіх прыхільнікаў сярод улад. У размове часта называецца прозвішча сакратара прапаганды павятовага камітэта партыі **Людвіка Бартосяка,** кіраўніка цэнтра партыйнай прапаганды **Вітальда Татарчука.** У такіх размовах людзі гэтыя называюцца блізкімі сябрамі гайнаўскіх ініцыятыў.

**Януш Копцял** — настаўнік ліцэя і старшыня клуба маладых, на пытанне, якая вялікая гайнаўская група неспакойных, не сыпануў прозвішчамі. Нават не сказаў, што многа іх. Тыя, аднак, якія ўжо ёсць — людзі выпрабаваныя і пэўныя. **Юлій Айжаноўскі** — старэйшы настаўнік, багаты вопытам і сабранымі матэрыяламі этнограф Гайнаўскай зямлі, **Эмілія Верэса** — «з тых, што не даспіць, не даесць, а сваё зробіць», **Віктар Кабац** — мастак, творца мясцовага тэатра (паставілі аднойчы гайнаўляне нялёгкі твор нялёгкага аўтара «Чужога» Камі. Адаптаваў твор на сцэну Януш Копцял, а рэжысіраваў яго Віктар Кабац. Тэатр бліснуў і неяк хутка пагас, але кажуць у Гайнаўцы, што «тэатр ёсць і будзе»). **Міраслаў Галэмбёўскі, Яўгеній Давідзюк** — цяпер грамадскі кіраўнік мастацкай групы Гайнаўка 68, **Расціслаў Місеюк, Станіслаў Кастэра** і яго жон-

**(Працяг на стар. 4)**



**Выстаўка Анатоля Корзуна з групы «Гайнаўка 68». Дзяўчына на здымку, гэта наша мілая правадніца па вячэрніх вуліцах Гайнаўкі Стася Гамляля.**

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### СПАЛУЧЭННЕ КАСМІЧНЫХ КАРАБЛЁЎ

Экіпажы касмічных караблёў **«Саюз-4»** і **«Саюз-5»** ужо сярод сваіх блізкіх на Зямлі. Сям'я савецкіх касманаўтаў, якія ўславілі сваю айчыну, павялічылася на **Уладзіміра Шаталава, Барыса Вальнова, Аляксея Елісеева і Яўгенія Хрунова.**

16 студзеня 1969 г. гэта вельмі важная дата ў гісторыі касманаўтыкі. У гэты дзень упершыню касманаўты, будучы на арбіце, перайшлі з аднаго карабля ў другі. Гэта абазначае, што ў будучыні ёсць магчымы абмен экіпажаў. Тых, якія даўжэйшы час прабываюць у Космасе, могуць замяніць іншыя. Можна ўжо таксама дасягнуць з Зямлі да лётаючага карабля ў Космасе і аказаць яму дапамогу ў крытычнай сітуацыі.

Спалучэнне і раз'яднанне на арбіце «Саюза-4» і «Саюза-5», а таксама амаль гадзінная праца касманаўтаў звонку карабля, практычна развязвае шмат асноўных праблем звязаных з пабудовай вялікіх станцый на арбіце Зямлі. У савецкай праграме касмічных доследаў вызначаецца вялікую ролю станцыям як навучна-даследчым базам вольным ад атмасферычных уплываў. Будуць яны таксама стартавым і забяспечваючым пунктам міжпланетных караблёў.

### ЛЯ КРУГЛАГА СТАЛА

У суботу 18 студзеня г.г. пачалося першае пасяджэнне парыжскай канферэнцыі ў справе В'етнама з удзелам: ДРВ, Нацыянальнага Фронту вызвалення Паўднёвага В'етнама, ЗША і сайгонскай адміністрацыі.

Узгоднена, што 4 дэлегацыі засядуць за круглым сталом, на якім не будзе ніякіх флажкоў, а таксама таблічак з назвамі паасобных дэлегацый. У адлегласці 45 см ад круглага стала размешчана два малыя сталы для сакратарыятаў паасобных дэлегацый.

Паразуменне ў справе формы стала сведчыць аб тым, што перамаглося тупік, які праз 2 з палова месяцы не дазваляў распачаць перагавораў у справе мірнага ўрэгулявання в'етнамскай праблемы. Гэты тупік перамаглося дзякуючы стойкай і паслядоўнай палітыцы ДРВ і НФВПВ.

Характэрным ёсць і тое, што паразуменне асягнута ў часе непрысутнасці ў Парыжы віцэ-прэзідэнта Кі, які мае нагляд над дэлегацыяй сайгонскай адміністрацыі.

### НІКСАН У БЕЛЫМ ДОМЕ

20 студзеня Р. Ніксан зложыў прысягу перад старшынёю Найвышэйшага суда, а потым куляадпорным самаходам пад эскортай паліцэйскіх, пераехаў у Белы Дом. З акна Белага Дома абяспечанага куляадпорнаю шыбаю, таўшчынёй 4 см, Ніксан прыймаў ваенны парад і дэманстрацыю моладзі. Над бяспекай Ніксана назірала **12 тыс. паліцэйскіх.**

А. К.



## БССР

### ВОСТРАЕ

У ЦК КП Беларусі адбылася нарада актыву работнікаў Міністэрства унутраных спраў Беларусі, у якой прынялі ўдзел партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі Беларускай Рэспублікі на чале з першым сакратаром ЦК **П. Машэравым.**

Абмяркоўвалася вельмі вострае і актуальнае пытанне ўмацавання законнасці і правапарадку, аховы правоў, гонару і годнасці савецкіх грамадзян.

### ГУРЫНОВІЧА

Споўнілася сто гадоў з дня нараджэння **Адама Гурыновіча,** беларускага паэта-рэвалюцыянера, аднаго з першых прапагандыстаў марксісцкай думкі ў Беларусі. Быў ён чалавекам высокай культуры і рознабаковых здольнасцей, будучым таленавітым інжынерам і перакладчыкам на беларускую мову твораў Пушкіна, Някрасава, Крылова, Міцкевіча, Каспровіча, Франко.

Адам Гурыновіч узначальваў студэнцкі «Гурток моладзі польска-літоўскай, беларускай і маларускай», які мэтай сваёй дзейнасці лічыў папулярызацыю ў народных масах ідэй сацыялізма. У ліпені 1893 года гурток быў разгромлены, а члены яго арыштаваны. Рэжым Петрапаўлаўскай крэпасці аказаўся непасільным для здароўя Адама.

### АЛІМПІЙЦАМІ

У складзе зборнай каманды Саюза ССР на XIX Алімпійскіх гульнях у Мехіка ўдзельнічала пятнаццаць беларускіх спартсменаў. Яны здабылі 11 алімпійскіх медаляў — 6 залатых, 4 сярэбраныя і 2 бронзавыя. Беларусь заняла СЁМАЕ месца, апярэдзіўшы 107 краін, у тым ліку Англію, Італію, Іспанію, Бельгію, Фінляндыю, Швецыю, Канаду.

Днямі ў Цэнтральным Камітэце Камуністычнай партыі Беларусі адбылася сустрэча з алімпійцамі, на якую прыбылі: першы сакратар ЦК КП Беларусі **П. Машэраў,** Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР **Сяргей Прытыцкі,** Старшыня Савета Міністраў БССР **Ц. Кісялёў** і іншыя высокія асабістасці.

Сяргей Прытыцкі ўручыў ганаровыя граматы і Граматы Вярхоўнага Савета БССР алімпійцам і іх трэнерам.

### «МІНЧАНКІ»

У Беларускім універсітэце ўведзена ў якасці экзаменатараў электронныя машыны **«Мінчанкі».** Газета «Чырвоная змена» публікуе рэпартаж з такой экзаменацыйнай сесіі: (... «ніводзін студэнт не можа цяпер паскардзіцца на неаб'ектыўнасць выкладчыка (...) машыну не ўпросіш»).

### ПАЛОМСКІ

Польскі спявак **Ежы Паломскі** выступаў у Мінску. Мінскія рэцэнзенты характарызуюць Паломскага, як спевака «тыпу Іва Мантана».

### РУБРЫКА

**«Фарбы мовы»** — новая рубрыка «Звязды», якая датычыць культуры беларускай мовы. Вельмі карысная рубрыка.

(С.Я.)



## ПОЛЬШЧА

### У ЖЭШАВЕ

Справаздачна-выбарчая ваяводская канферэнцыя партыі ў Жэшаве выбрала I сакратаром Ваяводскага камітэта партыі В. Кручка. Падчас канферэнцыі з прамоваю выступіў сакратар Цэнтральнага Камітэта партыі Юзэф Тэйхма. Сцвердзіў ён, што V з'езд партыі апраўдаў спадзяванні ўсяго грамадства. Устаноўлена на ім праграму далейшага гаспадарчага развіцця краіны і вызначана напрамкі далейшага развіцця сацыялістычнай дэмакратыі. Прамоўца сцвердзіў, што калі добрая праграма, добрая канцэпцыя развіцця з'яўляецца ў выніку з'езда партыі справай даведзенай да канца — то адкрытай з'яўляецца справа рэалізацыі гэтай праграмы. У сувязі з тым вялікая роля тут кожнага рабочага, інжынера і студэнта, якія павінны імкнуцца да ўсё вышэйшай прадукцыйнасці працы і ўсё вышэйшай эфектыўнасці навукі.

### У ПОЗНАНІ

Ваяводская канферэнцыя ў Познані выбрала I сакратаром Ваяводскага камітэта партыі К. Барцікоўскага. Падчас абрадаў з прамоваю выступіў член Палітбюро ЦК партыі Мар'ян Спыхальскі. Падкрэсліў ён вялікае значэнне справаздачна-выбарчых ваяводскіх і павятовых канферэнцый. Значэнне іх перш за ўсё ў тым, што канферэнцыі гэтыя адбываюцца на аснове багатых дасягненняў і пастаноў V з'езда партыі. Галоўным заданнем канферэнцыі з'яўляецца пераўтварэнне гэтых пастаноў у праграму дзеяння ваяводскіх і павятовых партыйных арганізацый. Прамоўца ўказаў на неабходнасць актывізавання дзейнасці ваяводскіх камітэтаў Фронту адзінства народа. Гаворачы аб гаспадарчых праблемах М. Спыхальскі ўказаў на неабходнасць пераходу да інтэнсіўных метадаў гаспадаравання і на вялікае значэнне гаспадарчага разліку. Прамоўца затрымаўся даўжэй над сітуацыяй у міжнародным рабочым руху і сцвердзіў, што наша партыя безупынна працуе над умацаваннем яго адзінства.

### УСХОДНІ ВАКЗАЛ

Перадана астаткова ў карыстанне Усходні вакзал — найбольш сучасны вакзал сталіцы. Ва ўрачыстасці адкрыцця вакзала прынялі, між іншым, удзел намеснік прэм'ера — Пётр Ярашэвіч і I сакратар Варшаўскага камітэта партыі — Юзэф Кэмпа. На Усходні вакзал прыходзяць, між іншым, цягнікі з Беластока.

### «РУХ»

Прадпрыемства кальпартажу выдавецтваў «Рух» адзначаць будзе неўзабаве сваё 20-годдзе. «Рух» вядзе ва ўсёй краіне 28 тысяч пунктаў продажу, з чаго 11 600 у вёсцы. Апрача таго ў вёсках і невялікіх гарадах працуе звыш 8200 клубаў «Руху». У мінулым годзе «Рух» прадаў чытачам каля 3 мільярдаў экземпляраў друку.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ

14 студзеня адбылося ў Беластоку пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта ПАРП. Старшынстваваў яму А. Лашэвіч. Было яно прысвечана падрыхтоўцы ваяводскай партыйнай канферэнцыі. Члены Ваяводскага камітэта заслухалі і аднагалосна прынялі даклад аб дзейнасці Ваяводскага камітэта на працягу двух мінулых гадоў і абмеркавалі праект даклада аб дзейнасці Ваяводскай партыйнай арганізацыі ў 1969—1970 гадах.

### СЦЯГ

У фастаўскім камбінаце перш за ўсё працуе моладзь. Сярэдні ўзрост рабочага складае тут 24 гады. Нічога тады дзіўнага, што ў самым буйным камбінаце Беласточчыны вельмі актыўна дзейнічае завадская арганізацыя Саюза сацыялістычнай моладзі, якая налічвае звыш 1000 членаў. Членскія білеты: № 999 атрымаў А. Яцкоўскі, № 1000 — Р. Барыс, а білет № 1001 — Г. Русіловіч. З гэтай нагоды фастаўская арганізацыя ЗМС як першая ў ваяводстве атрымала сцяг. Урачыстасці адбыліся 18 студзеня г.г. Між іншым прынялі ў іх удзел А. Лашэвіч, С. Жмійка і старшыня Галоўнага праўлення ЗМС — А. Жабінскі. Фастаўская арганізацыя ЗМС паспяхова разгортвае сацыялістычнае спаборніцтва працы. Зараз у камбінаце працуе 147 брыгад сацыялістычнай працы.

### У ПАМЯЦЬ ВЫЗВАЛЕННЯ

У суботу 18 студзеня адбылася ў Галдапі ўрачыстасць з нагоды 24 гадавіны вызвалення горада ад пруской няволі. Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел прадстаўнікі Савецкай Арміі. Варта прыпомніць, што за вызваленне Галдапі ішлі заўзятыя баі. Горад па некалькі разоў пераходзіў з рук у рукі. У выніку гэтага быў ён амаль поўнасцю разбураны. За гады народнай улады Голдап адбудавана і разбудавана. З нагоды 24 гадавіны яго вызвалення прадстаўнікі горада і Галдапскага павета склалі вянкі кветак ля Помніка ўдзячнасці савецкім воінам і на могільніку паўшых у час баёў за Голдап і галдапскую зямлю.

### ШКОЛЫ

На тэрыторыі Беластоцкага ваяводства знаходзіцца зараз (1968/69 школьны год) звыш паўтары тысячы пачатковых школ, у якіх вучыцца амаль 214 тысяч вучняў. Асноўная колькасць — 1389 — пачатковых школ знаходзіцца на вёсках. Дзеля параўнання варта ведаць, што ў даваенным Беластоцкім ваяводстве ў 1937/38 школьным годзе знаходзілася 1399 пачатковых школ, з таго ў вёсках — 1250. У гэтых даваенных школах вучылася 208 тысяч дзяцей. Гэтыя розніцы між цяперашнім а даваенным станам яшчэ больш павялічваюцца ў агульнаадукацыйным сярэднім школьніцтве. Зараз у 32-х агульнаадукацыйных ліцэях, якія знаходзяцца на Беласточчыне, вучыцца 11.240 вучняў. Да вайны ў 29-ці гімназіях і 26 ліцэях вучылася разам 8 тысяч вучняў.

В. Р.




**Niedziela, 26.I.**

9.10 Program dnia. 9.15 TV Kurs Rolniczy: „Nowe metody nawożenia organicznego". 9.50 „Przypominamy, radzimy". 10.00 „Tarapaty zakochanego" — film rum. 10.20 „Akcja — „Liść Dębu" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 11.15 Dla młodych widzów: „Pozdrowienia od przyjaciół" (Ryga). 12.00 Dziennik. 12.10 „Dwa Big-bandy" — grają W. Ludwikowski i S. Kenton. 12.40 PKF. 13.00 Turniej 3-ch skoczni. Skoki narciarskie (Wisła). 15.00 TV Teatr Lalek: H. Ch. Andersen — „Kalosze szczęścia". 14.50 „Piórkiem i węglem". 15.10 „W kawiarni Tele-Mocca" — program estradowy. 16.00 Międzypaństwowe spotkanie bokserskie ZSRR — Polska (Moskwa). 18.50 „Operacja Trójmiasto" — film („Polacy na frontach II wojny światowej"). 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Śpiewki stare ale jare". 20.50 Wiadomości sportowe. 21.00 „Skradzione życie" — film fab. USA.

**Poniedziałek, 27.I.**

16.30 Program dnia. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.30 Magazyn Sportowy. 17.55 „Skała" — film bułg. 18.10 „Spacerkiem po kinach". 18.40 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: M. Pagnol — „Mariusz". 21.35 „Zmiana warty" — rep. dok. 22.00 „U wrocławskich pisarzy" — rep. film. 22.25 Dziennik.

**Wtorek, 28.I.**

10.00 „Rok przestępny" — film dok. radz. 11.30 Przerwa. 12.45 i 16.00 Przysposobienie Rolnicze: „Wpływ jakości surowców rolnych na opłacalność gospodarowania". 13.20 Przerwa. 14.00 „Turniej przyjaźni" — Sprawozdanie z międzynarodowych skoków narciarskich w Zakopanem. 15.55 Program dnia. 16.35 Dziennik. 16.45 „Wielkie ośrodki przemysłowe nad Wisłą" — rep. 17.00 Telwizyjny Ekran Młodych. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Zjadacz dyń" — film fab. ang. 21.50 „Z czego budować" („Klucz do M-3"). 22.15 Dziennik.

**Środa, 29.I.**

8.25 „Próba miłości" — film fab. jugosł. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Rok 1948 w Europie". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Tarcie pożyteczne i szkodliwe". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Szkolimy fachowców". 12.25 Przerwa. 15.50 Program dnia. 15.55 „Matematyka w szkole": „Wektory zaczepione i kąty skierowane". 16.25 PKF. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Latający Holender u wrót Bałtyku". 17.20 TV Kurier Warszawski. 17.35 „Kronika 50-lecia Kraju Rad — rok 1930". 17.55 „Za kierownicą". 18.25 „Trzecim nurtem" — III koncert „Słuchamy i patrzymy". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „31 luty" — film („Alfred Hitchcock przedstawia"). 20.55 „Światowid". 21.25 „Ogrody koralowe" — rep. film. 21.55 Studio 63: „O Wyspiańskim..." 22.50 Dziennik.

**Czwartek, 30.I.**

8.10 „Martwe dusze" film fab. radz. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Język polski — B. Prus — „Anielka". 10.20 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. XI) Język polski — „Poezja rewolucyjna XX wieku". 12.25 Przerwa. 12.45 i 16.00 Mechanizacja Rolnictwa: „Mechanizacja wapnowania gleb". 13.20 Przerwa. 15.55 Program dnia. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.55 „Z drugiej strony szklanego ekranu". 18.05 Film. 18.20 „Polska zza siódmej miedzy". 18.45 „Balety romantyczne". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Poligon". 20.35 „Spotkanie" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 21.30 „Złote wrota" — program dokumentalno-historyczny. 22.00 „Zegar" — adaptacja opowiadania M. Gorkiego. 22.25 Dziennik.

**Piątek, 31.I.**

10.00 „Spotkanie" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 10.55 Przerwa. 16.10 Program dnia. 16.15 „Wybieramy zawód". 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Kino Ptyś". 17.05 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.20 TV Kurier Mazowiecki. 17.35 „Na zdrowie" 17.55 „Nie tylko dla pań". 18.15 „Spór o wodę" — rep. film. 18.40 „Nowe piosenki Wojciecha Młynarskiego". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Don Ignacio Domeyko" („Wielcy znani i nieznani"). 20.45 „Powiatowa lady Makbet" — film fab. jugosł. 21.55 „10 minut recenzji". 22.05 Program publicystyczny. 22.30 Dziennik.

**Sobota, 1.II.**

10.20 „Na tropach zbrodni" — film fab. radz. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Nie tylko żyją w wodzie". 12.25 Przerwa. 15.30 Program dnia. 15.35 TV Kurs Rolniczy: „Wapnowanie a nawożenie intensywne". 16.10 Program tygodnia. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Pentany, propany, butany" — turniej szkół zawodowych (Poznań i Warszawa). 17.45 „Spotkania z przyrodą". 18.10 „Warszawa, ja i Ty". 18.50 „Artyści areny" — film. 19.05 „Wieczorne rozmowy". 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 „Pegaz". 20.55 „Z wizytą u Was". 22.00 Dziennik. 22.15 Wiadomości sportowe. 22.25 „Czwarta nad ranem" — film fab. ang. (Kino Interesujących Filmów).




**Piątek, 24 stycznia**

8.00 Dziennik. 8.15 Dla dzieci: „Cuda przyrody". 8.30 L. Leonow. „Borsuki". Spektakl TV. 3 część. 10.10 Program z Nowosybirska. 15.15 „Nowiny". 15.25 Program dnia. 15.30 Dla uczniów. 16.45 „Nowiny" 17.00 Klub Filmowy. 18.00 „Sztafeta nowin". 18.45 „Kolektyw i kierownik". 19.00 Reportaż z zawodów w gimnastyce artystycznej. BSSR — Łotwa. 19.15 „Anna Karenina". Spektakl I i II części.

**Sobota, 25 stycznia**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 „Po obydwóch stronach granicy". Reportaż TV. 9.00 TV Klub filmowy. 10.00 „Mecz przyjaźni". Zawody pływackie. Mińsk — Wilnius — Ryga — Tallinn. 11.50 „Szkatułka muzyczna". 12.00 „W świecie obrazów, słowa i farb". 13.40 Hokej. SKA (Leningrad) — „Torpedo" (Mińsk). 15.20 Film muzyczny. 16.00 „Przy płomyku". 17.00 „Klub Wesołych". 18.25 Dziennik. 19.00 „Poszedł samotnie". Film fabularny. I seria. 20.25 „Samochód, pieszy, ulica..." 20.45 Mistrzostwa Europy w jeździe szybkiej na lodzie. Mężczyźni (NRF).

**Niedziela, 26 stycznia**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 „Skarby Leningradu". 8.45 Olimpiada z historii rzemiosła wojennego. I runda. 9.45 „Los dobosza". Film fabularny. 11.15 „TV ośrodek agitacyjny". 11.25 „Kronika życia muzycznego republiki". Rok 1937. 12.00 „Wiejski czas". 13.00 Dla uczniów. 14.00 Dla żołnierzy. 14.30 „Poszedł samotnie". Film fabularny. II seria. 15.50 „W świecie chłodu". 16.00 Transmisja sportowa. 19.00 „Europa: wydarzenia, kraje, problemy". 19.45 S. Gąsowski. „Głos". Spektakl TV. 20.30 Tydzień sportowy. 20.45 Mistrzostwa Europy w jeździe szybkiej na lodzie. Mężczyźni (NRF).

# 50 ГОД БССР

## КРАЙ ВЯЛІКАЙ ХІМІІ

Так называюць Беларусь. Здаецца, зусім нядаўна пачала развівацца гэтая новая галіна прамысловай вытворчасці, а ўжо колькі зроблена. У Светлагорску ўзведзены завод штучнага валакна, у Бабруйску будуецца шынны, у Полацку — хімічны камбінат, а пад Магілёвам — буйнейшы ў свеце камбінат па вытворчасці лаўсану.

У сучасны момант Беларусь з'яўляецца пастаўшчыком мінеральных угнаенняў. На поўдзень ад Мінска, на базе знойдзенага геолагамі Старобінскага месцанараджэння калійных солей (дарэчы, яго запасы перавышаюць усе месцанараджэнні калійных солей, вядомыя ў ЗША, ФРГ і Францыі), узведзены два і будуецца трэці Салігорскія камбінаты па вытворчасці мінеральных угнаенняў. Тут здабываецца штогод каля трох мільёнаў тон гэтай, як вобразна кажуць, солі зямлі. Мінеральныя ўгнаенні выпрацоўваюцца таксама на Гродзенскім азотнатукавым і Гомельскім суперфасфатным заводах. У бліжэйшы час будуць пабудаваны яшчэ чацвёрты і пяты Салігорскія калійныя камбінаты і вытворчасць гэтай прадукцыі павялічыцца да 11—12 мільёнаў тон у год.

Новай галінай народнай гаспадаркі рэспублікі з'яўляецца таксама нафтаперапрацоўчая і нафтаздабываючая прамысловасць. У 1963 годзе была ўведзена ў строй першая чарга Полацкага нафтаперапрацоўчага завода. Нафта паступала на прадпрыемства з усходніх раёнаў краіны. Але потым у раёне Рэчыцы было знойдзена месцанараджэнне прамысловай нафты. І не толькі Полацкі, але і Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод, які будзе ў хуткім часе пабудаваны ў гэтым палескім горадзе, стануць выпрацоўваць з мясцовай нафты бензін, газу, змазачнае масла і многія іншыя віды прадукцыі. А гэта ў сваю чаргу створыць спрыяльныя ўмовы для арганізацыі вытворчасці поліэтылену, нітрону і іншых матэрыялаў, якія будуць выкарыстоўвацца для вырабу хімічных валокнаў, пластычных мас і г.д. Ужо к канцу 1967 года быў здабыты першы мільён тон беларускай нафты.



На Гомельскім суперфасфатным.

# ПАМЯТНЫЯ ДАТЫ 1969 ГОДА

Перш за ўсё адрасуем іх школам і гурткам БГКТ. Хай у сваіх планах прадбачаць месца. А мы, у меру сваіх магчымасцей, будзем дапамагаць матэрыялам.

**Люты**

**13** — 200 год з дня нараджэння. І. Крылова (1769—1844), вядомага рускага пісьменніка-байкапісца.

**25** — 60 год з дня нараджэння Сяргея Дарожнага (1909—1938), беларускага паэта.

**Сакавік**

**2** — 50 год з дня адкрыцця (1919) І Кангрэса Камуністычнага Інтэрнацыянала. Стварэнне Камінтэрна.

**4** — 50 год з дня нараджэння Міколы Лупсякова (1919), беларускага празаіка.

**17** — 400 год з дня выдання Мсціслаўцам і Фёдаравым першай на Падляшшы кнігі (1569).

**20** — 30 год з дня смерці Максіма Гарэцкага (1893—1939), вядомага беларускага пісьменніка і вучонага.

**Красавік**

**3** — 120 год з дня смерці Юльюша Славацкага (1809—1849), выдатнага польскага паэта.

**14** (ст. ст.) — 70 год з дня нараджэння Ільі Гурскага (1899), беларускага празаіка і драматурга.

**Май**

**1** — 70 год з дня ўстанаўлення Міжнароднага свята працы (1899).

**5** — 150 год з дня нараджэння Станіслава Манюшкі (1819 — 1872), выдатнага польскага кампазітара.

**28** — 150 год з дня нараджэння Уолта Уітмэна (1819—1892), вялікага амерыканскага паэта.

**Чэрвень**

**6** — 170 год з дня нараджэння А. Пушкіна (1799 — 1837) вялікага рускага паэта.

**26** — 100 год з дня нараджэння Марціна Андарсэна Нэксэ (1869—1954), выдатнага дацкага пісьменніка.

**Ліпень**

**22** — 25 год з дня абнародвання Маніфеста ПКВН (1944). Дзень адраджэння Польшчы.

**27** — 25 год з дня вызвалення Беластока.

**Жнівень**

**5** — 125 год з дня нараджэння І. Рэпіна (1844—1930), выдатнага рускага жывапісца.

**Верасень**

**1** — 30 год з дня нападу гітлераўцаў на Польшчу (1939). Пачатак II сусветнай вайны.

**6** — 25 год з дня абнародвання дэкрэту ПКВН аб зямельнай рэформе (1944).

**7** — 50 год з дня нараджэння Алеся Асіпенкі (1919), беларускага празаіка.

**Кастрычнік**

**4** — 300 год з дня смерці Рэмбрандта ван Рэйна (1606—1669), вялікага галандскага жывапісца.

17 — 120 год з дня смерці Фрыдэрыка Шапэна (1810—1849), вялікага польскага кампазітара.

**Лістапад**

**2** — 60 год з дня нараджэння Максіма Лужаніна (1909), вядомага беларускага паэта.

**8** (ст. ст.) — 70 год з дня нараджэння Міхася Клімковіча (1899—1954), вядомага беларускага паэта, драматурга і крытыка.

**22** — 25 год з дня смерці Кузьмы Чорнага (1900—1944), вядомага беларускага празаіка.

**30** — 70 год з дня нараджэння Міхася Лынькова (1899), вядомага беларускага празаіка.

**Снежань**

**17** — 125 год з дня смерці В. Дуніна-Марцінкевіча (1807—1884), пачынальніка рэалістычнай плыні ў беларускай літаратуры.

**31** — 100 год з дня нараджэння Анры Маціса (1869—1954), выдатнага французскага жывапісца.

# БЕЛАВЕЖСКІЯ МАТЫВЫ Ў „КАНРАДЗЕ ВАЛЕНРОДЗЕ“

Сто сорак год таму назад выйшла з друку слынная паэма Адама Міцкевіча «Канрад Валенрод», твор, які з'явіўся парогам сапраўды шырокай папулярнасці вялікага паэта. У гэтай паэме вялікі паэт усхваліў любоў да Бацькаўшчыны, тую любоў, у якой дабро Бацькаўшчыны перш за ўсё! Мота паэмы: «Павінны вы ведаць, што ёсць два роды барацьбы, трэба быць лісам і львом».

Цікава зазначыць, што ў прадмове да паэмы вялікі паэт даў трапную характарыстыку культурна-палітычнай сутнасці Вялікага княства Літоўскага.

Міцкевіч, м. ін., піша: (...) «гэта велізарная дзяржава, занадта раптоўна разрастаючыся, не змагла выпрацаваць у сябе ўнутраную сілу, што розныя часткі яе з'ядноўвала б ды ажыўляла б (...) Славяне (...) знаходзячыся на вышэйшай ступені цывілізацыі; і або заваяваныя, або апынуўшыся пад пагрозаю з боку Літвы, паступовым уплывам здабылі маральную перавагу над моцным, але варварскім прыгнятальнікам, і праглынулі яго, як Кітай татарскіх наезнікаў (...) многія князі літоўскія на Русі прынялі рэлігію, мову і нацыянальнасць рускую. Такім чынам Вялікае княства Літоўскае перастала быць літоўскім» (...).

У трох месцах паэмы «Канрад Валенрод» Міцкевіч піша пра лясы Белавежы.

І так, літоўскі пясняр-«вайдэлёт» спявае грознаму Валенроду народную баладу пра страшэнную заразу:

**Nieraz na pustych cmentarzach i błoniach**
**Staje widomie morowa dziewica,**
**W bieliźnie, z wiankiem ognistym na skroniach**
**Czołem przenosi białowieskie drzewa,**
**A w ręku chustką skrwawioną powiewa.**

У зносцы нумар 12 да паэмы Міцкевіч дае кароткі пераказ балады, пачутай ім «некалі на Літве». І далей: «вайдэлёт», павядаючы пра вялікае каханне Валенрода да Альдоны, каханне, якога ён выракся ў імя выратавання Бацькаўшчыны ад нашэсця крыжаносцаў, дае наступнае параўнанне:

**Tak u białowieskiego dębu jeżeli myśliwi,**
**Ogień tajemny wznieciwszy, rdzeń głęboko wypalą,**
**Wkrótce lasów monarcha straci swe liście powiewne,**
**Z wiatrem polecą gałęzie, nawet jedyna zieloność,**
**Dotąd mu czoło zdobiąca, uschnie korona jemioły.**

А, калі Валенрод — патрыёт Літвы, які давёў справу сваю да канца, знішчаючы здрадаю моц крыжаносцаў — хоча вярнуць каханне князевай дачкі, Альдоны, ратаваць яе і сябе, скажа:

**Są głuche cienie białowieskich lasów,**
**Kędy nie słychać obcej broni szczęku,**
**Ani dumnego zwycięscy hałasów,**
**Ni zwyciężonych braci naszych jęku.**
**Tam, w środku cichej, pasterskiej zagrody,**
**Na twoim ręku, u twojego łona,**
**Zapomnę, że są na świecie narody,**
**Że jest świat jakiś — będziem żyć dla siebie.**

На заканчэнне дарэчы будзе падкрэсліць, што ў паэме белавежскія матывы ў апісанні лясоў дамінуюць.

**К. Янкоўскі**

# У ТЭАТРЫ АЛ. ВЯНГЕРКІ

На сцэне Беластоцкага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ідзе камедыя ў пяці актах **Мальера** «Скупы» (Skąpiec). Пераклад належыць пяру **Тадэуша Боя-Жэленскага**. У камедыі выступае



15 асоб. «Скупы» — дасканалая павучальная камедыя, якую варта паглядзець.

Рэжысерыя **Збігнев Бесерт**, пастаноўка **Ванды Чаплянкі**. Прэм'ера адбылася ў снежні ў Гайнаўцы.

**На здымку: Зборная сцэна з камедыі.**

**(вл)**

# ЭТНАГЕНЕЗ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ

Мінскае выдавецтва «Навука і тэхніка» апублікавала нядаўна кніжку М. Я. Грынблата пад загалоўкам: «Белоруссы. Очерки происхождения и этнической истории». Аўтар кніжкі паставіў сабе мэту высвятліць этнічны генез беларусаў, устанавіць, якія славянскія плямёны сталіся продкамі беларусаў і ў якіх умовах адбываўся працэс вылучэння беларускай народнасці са старарускай народнасці, аб'ядноўваючай усіх усходніх славян ў перыяд Кіеўскай Русі. У доследах сваіх аўтар паслугоўваецца багатым матэрыялам, дадзенымі археалогіі, гісторыі, мовазнаўства, этнаграфіі, фальклору, антрапалогіі, тапаніміі і іншых галін ведаў. Шырыня ведаў аўтара і багацце выкарыстанага матэрыялу ўзбуджаюць давер і пашану да аўтара і яго саліднай працы.

Карыстаючыся гэтымі дадзенымі аўтар праводзіць падрабязны аналіз тэрытарыяльнага размяшчэння плямён, з якіх перш за ўсё выводзяцца беларусы: дрыгавічоў, крывічоў і радзімічаў. Грынблат разглядае таксама ўдзел іншых этнічных груп у фармаванні беларускай народнасці і нацыі: літоўцаў, яцвягаў, палякаў, рускіх, украінцаў. У апошніх раздзелах кніжкі аўтар праводзіць падрабязны разгляд асаблівасцей матэрыяльнай і духовай культуры беларусаў, а таксама агульныя рысы ў культуры ўсходніх славян.

Асноўным тэарэтычным размежаваннем кніжкі з'яўляецца разрозненне паміж народнасцю а нацыяй. Разрозненне гэтае з'яўляецца, як вядома, паўсюдным у савецкай навуцы, яго прыдатнасць была выпрабаванай у шматлікіх гістарычных і грамадскіх аналізах савецкіх зучоных. Адзначаю гэта аднак на старонках «Нівы» як асаблівасць кніжкі таму, што ў польскай навуцы не знайшло яно прымянення, не карыстаюцца ім тут ні вучоныя марксісты, ні немарксісты.

Прызначаючы агульную навуковую прыдатнасць размежавання паміж нацыяй і народнасцю трэба аднак сказаць, што канцэпцыя народнасці як этнічнай супольнасці характэрнай для дакапіталістычнага, феадальнага грамадства, аб'ядноўваючай усё гэтае грамадства, весці можа да пэўных спрашчэнняў. Не ўсцярогся — на нашу думку — спрашчэнняў такіх, і М. Грынблат. Асабліва, калі старарускую народнасць (IX—XIII стагоддзі) і беларускую народнасць (XIV і XVIII стагоддзі) трактуе, як цэласці аб'яднання і свядомасцю свайго культурнага адзінства і патрыятычнымі імкненнямі абароны сваёй незалежнасці. Тым часам доследы, якія праводзяцца над народнай свядомасцю этнографамі і сацыёлагамі ў розных краінах, паказваюць, што нават у такіх, багатых у нацыянальна-вызваленчыя рухі, краінах як Польшча, — сялянства яшчэ пад канец XIX а нават і XX стагоддзяў у многіх выпадках не мае сфармаваных патрыятычна-палітычных пачуццяў і поглядаў, а яго нянавісць да захопнікаў выплывае выключна з нянавісці да ворагаў народнага рэлігійнага культу, яго рэлігійных святасцей, асаблівасцей і арыгінальнага самабытнага стылю.

З іншых цікавых нам момантаў кніжкі М. Я. Грынблата варта прывесці вывад аўтара адносна паходжання беларусаў-католікаў. М. Я. Грынблат сцвярджае, што ў прыгнятаючай большасці з'яўляюцца яны патомкамі абеларушчаных літоўцаў. Вывады гэтыя пераказваю не без самазадавальнення, паколькі ў свой час прыйшлося мне выказаць падобную думку ў адносінах да паходжання нашых беларусаў-католікаў Сакольшчыны і Дуброўшчыны.

Шмат увагі прысвячае аўтар этнічнай структуры ўсходняй Беласточчыны звязваючы яе з засяленнем гэтых зямель усходнеславянскім племенем дрыгавічоў. Вывад гэты не зусім правільны. Аўтар не ўлічвае тут матэрыялаў публікаваных у апошнія гады ў Польшчы, асабліва Беластоцкім навуковым таварыствам. Паказваюць яны, што першабытнае ўсходнеславянскае асадніцтва на тэрыторыі Беласточчыны аказалася вельмі нетрывалым і было знішчаным войнамі ў XIII і XIV стагоддзях. У XV—XVII стагоддзях адбываецца нанава засяленне ўсходняй Беласточчыны, на што ёсць ужо даволі падрабязныя дакументы.

**Ул. Паўлючук**

# НАВАГОДНІ ПАДАРУНАК

На Новы год дзед Мароз прыносіць падарункі. Беластоцкаму ваяводству прынёс ён адно новае прадпрыемства. 1-га студзеня 1969 года пачало сваё самастойнае жыццё Беластоцкае будаўлянае прадпрыемства лёгкай прамысловасці. Дагэтуль дзейнічала яно на Беласточчыне, як філіял Лодзінскага будаўлянага прадпрыемства «Поўнач». Беласточчына аднак шпарка разбудоўвае сваю гаспадарку, і ўсё ўзрастаючыя патрэбы на будаўнікоў прымусілі ўлады Беластоцкага ваяводства старацца, каб лодзінскі філіял стаў самастойным прадпрыемствам.

Чым яно займаецца?

На гэтае пытанне адказвае дырэктар прадпрыемства, тав. Адольф Касінскі:

— На тэрыторыі Беластоцкага ваяводства абсталяваліся мы ў маі 1967 года. Ад гэтага часу вартасць выкананай намі працы аблічваецца на суму ў 7 мільёнаў 400 тысяч злотых. Асноўнай галіной нашай дзейнасці з'яўляюцца скураная, ваўняная, баваўняная і ільно-апрацоўчая прамысловасці. Рамантавалі мы і разбудоўвалі прадпрыемствы ў Элку, у Крынках на Сакольшчыне, у Аўгустове пад Бельскам; будавалі склады для воўна-апрацоўчага прадпрыемства ў Міхалове і для малачарні ў Заблудаве; за кошт у 2 мільёны злотых пабудавалі мы будынак каварні ў Аўгустове.

У Беластоцкага будаўлянага прадпрыемства лёгкай прамысловасці шырокія перспектывы развіцця. Найлепш ілюструюць гэта лікі: заказы на 1969 год складаюць у яго суму ў 10 мільёнаў 800 тысяч злотых — на звыш 4 мільёны больш, як у папярэднім годзе. Але за 5 год прадпрыемства зможа ўжо прыняць заказы на суму ў 150 мільёнаў злотых.

Самай буйнай пабудовай, якую гэтае прадпрыемства пачынае ў першым годзе свайго самастойнага жыцця, з'яўляецца пабудова базы для будаўлянавытворчага прадпрыемства ў мясцовасці Рацэва пад Саколкай. Заканчэнне гэтай будовы прадбачваецца на 1970 год. Тады будзе яно выпускаць серыйна жалеза-бетонныя будаўляныя элементы.

Дырэктар Касінскі сцвярджае, што на рацэўскай пабудове патрэбны рабочыя. Можна там навучыцца прафесіі муляра, столяра і іншых. Гэта шанц для маладых, здаровых сялян з падсакольскіх вёсак і мястэчак. Пасля заканчэння пабудовы можна астацца і працаваць у рацэўскім прадпрыемстве. Ахвотных прыймае кіраўнік групы, якая вядзе разбудову гарбарні ў Крынках пад Саколкай. Там таксама можна атрымаць больш дакладныя інфармацыі. (ВР)

**Па той бок Аўгустоўскай пушчы**

Пад такім загалоўкам Ежы Лёваль, гэты віртуоз польскага рэпартажа, друкуе свой чарговы матэрыял да ўжо слыннага цыкла «Польшча, якой не ведаем» («Жыце літэрацке», нр. 2 ад 12.I.69 г.).

Піша пра літоўскую нацыянальную меншасць у Польшчы, на Беласточчыне, у Сэйненскім павеце. Піша пра літоўскую душу і цалкам натуральнае, калі што й раз загаворыць пра беларусаў. Менавіта, загаворыць, бо гэтыя рэпартажы Лёваля не тое, што чытаеш, але проста слухаеш, як гутарку сардэчнага сябра.

Лёваль добра ведае мінулае зямлі па той бок Аўгустоўскай пушчы, што літоўцы ў Сэйненскім пав. захавалі сваё

# SKĄD WRACAJĄ LITWINI

этнічнае аблічча (...) «сярод масы польскай і беларускай» (...). Масы, якая нават цяпер гаворыць з беларускімі «зацяжкамі». Лёваль інфармуе і пытаецца: (...) «цікава: некалі мнагаліка пражываючыя тут беларусы ў пачатку XVII ст. пачалі хутка паланізавацца; з часам цалкам растварыліся ў польшчыне нягледзячы на тое, што ўскраем Аўгустоўскай пушчы праходзіць этнічная граніца беларускай нацыянальнасці». Лёваль прыводзіць даныя апошняга рускага перапісу насельніцтва тых ваколіц напярэдадні першай сусветнай вайны: літоўцаў — 52,2 працэнта, палякаў — 22,9 прац., яўрэяў — 10,1 прац., немцаў — 5,2 прац., **беларусаў — 4,5 прац.** і рускіх — 4,2 працэнта. (ся)

# УЗНАГАРОДА рэд. В. Валкавыцкай

У канцы 1968 года Прэзідыум праўлення акругі Лігі аховы прыроды ў Беластоку разгледзіў конкурсныя працы журналістаў прэсы і радыё звязаныя з аховаю прыроды і яе багаццяў.

З прыемнасцю інфармуем, што Прэзідыум ЛьОП, ацэньваючы публіцыстыку **рэд. Веры Валкавыцкай,** выказаў ёй падзяку і прызнаў узнагароду. Шчыра віншуем. Звяртаем увагу, што артыкулы аб прыродзе рэд. В. Валкавыцкай у асноўным датычылі Белавежскай пушчы. (ак)

# ВЯЧЭРНЯЯ ГАЙНАЎКА

(Працяг са стар. 1)

ка **Ірка, Віталіс Макац** — кіраўнік беларускай эстрады. У кругу гэтых людзей нарадзілася і рэалізавалася думка аб клубе маладых ЗМС, найбольшым дасягненнем якіх з'яўляецца іхні дыскусійны клуб у некалькі дзесяткаў асоб.

Трэці ўрэшце Гайнаўскі клуб называецца літаратурным. Новае гэта і не акрэплае дзіцё гайнаўскай ініцыятывы. Акрамя размоў аб уласнай творчасці, клуб арганізуе сустрэчы з пісьменнікамі і крытыкамі. Стараецца ў апошнім часе выдаць хоць бы на шапірографе зборнік уласных вершаў. Выдаецца, што вельмі на гэтым гайнаўскаму клубу залежыць. Адно пэўнае адносна клуба, ён прычыняецца да зацікаўлення літаратурай увогуле.

Неспакойныя з-пад знаку Дома настаўніка закідаюць гайнаўскім дамам культуры, што тыя сваю працу кіруюць замнога на «кансумцыю», а замала на разбуджэнне творчых пошукаў і думак людскіх. Не выказваюся ў гэтай справе, хоць цікавая яна надта, як уступ да дыскусіі ўвогуле над роляй дамоў культуры. Адно адчуваю бясспрэчна: гонар за пушчанскі горад, што тут, на падабенства дрэў, свае моцныя карэнні запусціла ў гэтую зямлю маладая ініцыятыва. Вобраз яе змяняецца, пастаянна фармуецца, але карэнні астаюцца тыя самыя. На ёй вырасце будучая вячэрняя Гайнаўка — горад цэладзённай працы на заводзе і горад вячэрняга адпачынку, горад творчых людскіх размоў і пошукаў.

**Вера Леўчук**
Фота: **Р. Сянько**



**У адзін такі зімовы вечар у клубе «Гурніка» засталі мы І сакратара павятовага камітэта партыі.**



**У кафэ «Лесніка». У гэтым доме культуры заняткі распланаваны так, што карыстаюцца імі аднаразова тысячы асоб. Уверсе здымкі карцін выкананыя ў кабінетах «Лесніка» т.зв. тэхнікай інтарсіі — выпальванне ў дрэве.**

# РОДНАЯ ЛІТАРАТУРА



**І. Шамякін нарадзіўся 30 студзеня 1921 года ў вёсцы Карма, Гомельскай вобласці, у беднай сялянскай сям'і. У 1940 годзе скончыў Гомельскі тэхнікум будаўнічых матэрыялаў і быў прызваны ў Савецкую Армію. Удзельнічаў у баях пад Мурманскам, Кандалакшай і Петразаводскам, прымаў удзел у вызваленні Польшчы і ўзяцці Берліна. Сталай літаратурнай працай заняўся пасля дэмабілізацыі. З восені 1945 г. настаўнічаў у вясковай школе і вучыўся завочна ў педінстытуце. У 1948 г. паступіў у партыйную школу пры ЦК КПБ, пасля заканчэння якой быў прызначаны галоўным рэдактарам альманаха «Советская Отчизна». Цяпер з'яўляецца адным з сакратароў Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Пачаўшы з невялікіх аповесцей і апавяданняў на тэмы ваеннага і калгаснага жыцця, хутка перайшоў да больш буйных твораў, стаў адным з найпапулярнейшых беларускіх пісьменнікаў. Яго раман «Сэрца на далоні» перакладзены на польскую мову. Сёння друкуем урывак з яго апошняга рамана «Снежныя зімы», які быў надрукаваны ў 11 і 12 нумарах «Полымя» за мінулы год.**

# СНЕЖНЫЯ ЗІМЫ

## ІВАН ШАМЯКІН

На пачатку снежня намяло — не прайсці, не праехаць. І настрой у мяне быў сабачы. Часам хацелася завыць, як вылі тыя галодныя ваўкі, што падыходзілі ўначы да лагера. О, каб такі настрой быў у аднаго мяне — то паўбяды. Ён апанаваў многіх. Толькі, здаецца, Вася Шугановіч, камісар мой, не паддаваўся роспачы.

Цяпер партызанскія камандзіры ўсе пішуць мемуары. І вынікае з гэтых кніжак, што ўсё было проста з пачатку да канца. Безумоўна, былі цяжкасці, нястачы, страты, але, маўляў, ніхто з іх, вялікіх стратэгаў, ні на хвіліну не сумняваўся ў моцы Чырвонай Арміі, у гераізме народу, у мудрасці партыі, а гэтая вера іх перадавалася кожнаму партызану.

Я — грэшны.

Я таксама верыў у партыю і ў народ. Але я бачыў адступленне арміі. Я слухаў радыё. У атрадзе было два прыёмнікі. І, на маю бяду, Валька Будыка ведаў нямецкую мову. Каб у тыя дні троху шырэй паведамлялі нашы, няхай сабе самыя цяжкія, навіны. Але Масква перадавала бадзёрую музыку і скупыя зводкі Саўінфармбюро аб жорсткіх ці мясцовых баях на кірунках тых гарадоў, якія даўно ўжо — гэта мы ведалі пэўна — засталіся ў тыле нямецкай арміі.

А ў пушчы выла завіруха. Замяло дарогі. Трашчалі марозы. Семдзесят чалавек хадзілі ў разведку ці сядзелі ў зямлянках, пракураных, цесных, адкуль гарачыню распаленай да чырвані «жалезкі» магло выдзьмуць ветрам за тры мінуты — толькі адчыні дзверы. Семдзесят чалавек. Нямала на той час. Але ўзброеныя хто чым, з малым боезапасам. Без вопытнага камандзіра. Адкуль у мяне ў загадчыка райсельгасаддзела, мог быць вайсковы вопыт? Добра, што ў верасні да нас далучыўся інжынер-кадравік Будыка з групай сапёраў.

Вы былі мудрыя, цяперашнія мемуарысты. А я назат не ведаў тады, якім чынам здабываць харч для сямідзесяці чалавек. Праблема гэтая і надалей, калі мы ўсё ведалі, у любы час маглі звязацца з партыйным цэнтрам і ўсё ўмелі, заставалася вострай у нашай партызанскай палітыцы, бо закранала адносіны з насельніцтвам. Сын селяніна, аграном, я думаў пра гэтую палітыку ў самым пачатку. Ведаў — ваяваць не адзін год. Не адну зіму сядзець у пушчы і думаць, дзе дастаць хлеб, патроны і жалезную бочку, з якой можна зрабіць печку замест той, што прагарэла. Каб ваяваць доўга, зацята, з такім бязлітасным ворагам, трэба захаваць людзей, трэба накарміць іх і сагрэць. Цяпер я думаю: фашысцкія стратэгі разумнелі пасля таго, як атрымлівалі добрага выспетка ў самае балючае месца. Ніхто з іх не здагадаўся, у што можа вырасці невялікі атрад «лясных бандытаў», пра які яны ведалі, пісалі ў рэляцыях. Каб такія блакады, як у сорак трэцім, яны наладзілі тады зімой сорак першага, нам прыйшлося б туга.

У тыя дні я асабліва баяўся нямецкай атакі. Даходзіла да роспачы, якой я, аднак, не меў права нікому паказаць.

Мы ведалі: ішла вялікая бітва за Маскву. Ад таго, як яна скончыцца, чыёй перамогай, вельмі многае залежыць. Хацелася памагчы сваім у гэтай бітве. Мы добра ведалі, якая дапамога найбольш дзейсная. Эшалоны, якія ішлі на фронт. Чым менш іх дойдзе, тым лягчэй будзе нашым.

У нас быў вопыт. Але не хапала ўзрыўчаткі. Здабывалі яе па-рознаму. Адзін шлях быў самы пэўны, аднак самы небяспечны. Кіламетраў за дваццаць на былым нашым аэрадроме хлопцы выявілі склад авіябомб. Ад кожнай з гэтых бомб, як панура жартавалі партызаны, можна было загінуць шэсць разоў: на аэрадроме, у трох вёсках, праз якія трэба правезці смяротны груз і ў двух у якіх размяшчаліся паліцэйскія гарнізоны, пры разборцы дэтанатара бомбы, пры выплаўцы толу і — я дадаў сёмы выпадак — пры зборцы міны. Але гэтага, сёмага, у атрадзе не прызнавалі, бо тут ужо справу мелі не з бомбай. Да таго ж нам




### Кекс шакаладны

У дзве шклянкі мукі ўсыпце 1/2 чайнай лыжкі соды і перамяшайце. Асобна разатрыце 150 грамаў сметанковага масла, у тры прыёмы дадаючы 300 грамаў цукру, 2 узбітыя яйкі, шклянку малака, змешанага са сталовай лыжкай воцату. Цяпер усыпце муку, 2 сталовыя лыжкі топленага шакаладу і ўсё асцярожна вымешайце, пакладзіце ў форму, змазаную маслам. Выпякаецца каля 25 хвілін. Гатовы выняты з формы кекс абсыпаецца цукровай пудрай і здробненымі грэцкімі арэхамі.

### Кампот

Калі вы варыце кампот з сухафруктаў (сліў, абрыкосаў, ігруш, інжыру і інш.), дадайце лыжачку крухмалу — фрукты зварацца хутчэй і смак кампоту палепшыцца.




### Загадка гадзінніка

У Аргенціне быў забіты браняносец, у чэраве якога знайшлі наручны гадзіннік, выраблены ў мінулым стагоддзі.Як толькі гадзіннік пачысцілі, ён пачаў спраўна працаваць.




### Каб шыбы не «пацелі»

Цёплае паветра пакоя, трапляючы зімой на халодныя шыбы акон, выдзяляе вадзяную пару, якая асядае на шкле. Вокны «пацеюць». Каб пазбегнуць гэтага, трэба шкло працерці анучкай, змочанай растворам з адной часткі ачышчанай гліцэрыны і 20 частак звычайнага, можна дэнатураванага, спірту. Праз кожныя два тыдні шыбы старанна праціраюць сухой мяккай анучкай і змазваюць новай порцыяй раствору.

### Сярэбраныя рэчы

Пацьмянеўшыя сярэбраныя рэчы пакладзіце на 10 хвілін у ваду, у якой варылася бульба і яны набудуць свой першапачатковы бляск.

## ТЭХНіКА

### Празрыстая кераміка

Шкло — выдатны празрысты матэрыял, але яно мае вялікі недахоп: не вытрымлівае высокай тэмпературы. Таму калі трэба назіраць за высокатэмпературнымі працэсамі, шкло замяняюць кварцам. Але ж сучасная тэхніка ўсё часцей мае справу з тэмпературамі, якіх і кварц не вытрымлівае. Вось чаму хімікі імкнуцца стварыць празрысты матэрыял яшчэ больш тугаплаўкі, чым кварц.

Настойлівыя пошукі прынеслі першы плён. Удалося зрабіць празрыстым адзін з відаў керамікі. Яе назва мала што скажа неспецыялісту: гэта цвёрды раствор вокісу торыя і вокісу ітрыя. Затое якасці керамічнага шкла будуць зразумелыя кожнаму: яно цвёрдае, мае добрую празрыстасць і пры гэтым вытрымлівае гарачыню да 2.200 градусаў!

## ГЛЕДЗЯЧЫ НА




(Працяг са стар. 5)

лякарствы, якія даюць пацыентам перад аперацыяй, і не адчуваў ні страху, ні хвалявання.

Клайв Хаўпт ужо ляжаў на аперацыйным стале. Яго дыханне падтрымлівалася толькі з дапамогай машыны. Калі хірургі пачалі аперацыю, Клайв Хаўпт ужо памёр і біццё яго сэрца падтрымлівалася штучна.

Я нічога не памятаю аб першых чатырох днях пасля аперацыі. Толькі на пяты дзень я зразумеў, што я яшчэ жыву. Мае першыя словы былі: «Я жывы. Мне вельмі лёгка дыхаецца.»

Я не адчуваў амаль ніякага болю ў грудзях. Аперацыя кілы, якую я перанёс некалькі год да гэтага, была куды балючай.

Мяне ўвесь час пыталі і пытаюць, як я ўспрыняў той жудасны факт, што ў маім целе цяпер знаходзіцца сэрца мерцвяка. Ці было гэта дзіўна? Ці адчуваў я сябе нейк па-новаму? Ці адбыліся якія-небудзь змены ў маёй асабовасці? У маіх эмоцыях і светаадчуванні?

Магу адказаць, што ні разу я не адчуў чаго-небудзь незвычайнага. З поўнай павагай да праўды я павінен сказаць, што няма залатых сэрц ці чорных сэрц, добрых ці злых. Як бы ні апісвалі іх паэты, гэта проста мышачныя помпы, толькі некаторыя з іх дзейнічаюць лепш, а іншыя горш. Я ўсё той жа Філіп Блайберг, якім быў да перасадкі, з тымі ж пачуццямі, эмоцыямі, поглядамі...

На васемнаццаты дзень пасля аперацыі я адчуў, што атмасфера стала трывожнай — менавіта на васемнаццаты дзень памёр Луіс Вашканскі. Але магу з поўнай шчырасцю сказаць, што да гэтага часу я адчуваў сябе не толькі лепш, што нават не думаў аб магчымасці рэакцыі адарвання ці пагаршання майго стану.

Дваццаць сёмага студзеня я сам умыўся і пагаліўся, упершыню сам надзеў шкарпеткі і туфлі, без дапамогі ўстаў з ложка і двойчы прайшоўся па палаце.

Нейк вечарам у маю палату прыйшоў прафесар Барнард у масцы, пальчатках і стэрыльным халаце. У руках ён трымаў празрысты пластмасавы карабок. У карабку ў фіксіруючай вадкасці плывала маё папярэдняе сэрца. Прафесар Барнард сеў побач са мною на ложак і са спакойнай прафесіянальнай цікавасцю ўзяўся разглядаць маё старое сэрца. Ён паказаў мне, што звыш 90% мышцы фібразіраваліся і пераўтварыліся ў бескарысную рубцавую тканку. Тое, што я ўхітрыўся дажыць да перасадкі, само па сабе было цудам.

Прафесар Барнард паглядзеў на мяне з хітрай усмешкай і сказаў:

— Доктар Блайберг, вы разумееце, што вы першы чалавек у гісторыі чалавецтва, якому давялося ўбачыць уласнае мёртвае сэрца?..

Праз паўтара месяца пасля вяртання дамоў я ўпершыню за доўгі час сеў за руль аўтамабіля і з гэтага моманту заўсёды сам ездзіў у бальніцу на рэгулярныя праверкі.

Цяпер, калі я пішу гэта, ад часу аперацыі прайшло чатыры месяцы. Выглядаю я добра, а адчуваю сябе яшчэ лепш. Ранейшая задышка знікнула бясследна. Мае ногі ўмацаваліся, і я навучыўся хадзіць амаль нармальна. Часам мне патрэбна дапамога на лесвіцы, але гэта глупства.

Адгадаць, што рыхтуе будучыня, немагчыма. Але я ўжо атрымаў некалькі месяцаў нармальнага жыцця звыш вызначанага мне тэрміну, і нават калі у будучым тыдні памру ад рэакцыі адарвання, я ўсё-такі буду лічыць, што мяне апераравалі ўдачна. Колькі б дзён, месяцаў ці год не заставалася мне, я прыму іх такімі, якімі яны будуць, і пастараюся ўзяць з іх усё, што змагу, — да апошняга біцця сэрца.

**Філіп Блайберг**



Філіп і Эйлін Блайбергі ў першую гадавіну гістарычнай аперацыі.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

### АМЕРЫКА ПАЛЮЕ НА РОЗУМЫ

Патрэбы амерыканскай эканомікі на кваліфікаваныя кадры намнога большыя, чым «прадукцыйнасць» амерыканскіх вышэйшых навучальных устаноў. Перш за ўсё велізарныя патрэбы ў таленавітых і высокакваліфікаваных кадрах тэхнічнай інтэлігенцыі. Пачынаючы ад 1949 года з адной толькі Заходняй Нямеччыны выехала ў ЗША каля сямі тысяч вучоных, маладых і таленавітых спецыялістаў. Гэтым працэдэрам займаецца, між іншым, нават спецыяльная фірма, якую ў Англіі празвалі злодзеем талентаў. Напрыклад, у 1965 годзе з Англіі ў ЗША выехала каля трыццаці тысяч спецыялістаў. Англічане найбольш трацяць сваёй інтэлектуальнай эліты, што адмоўна ўплывае на развіццё нацыянальнай эканомікі і прагрэсу.

Для прыкладу можна падаць, што ў сучасны момант Амерыцы не хапае каля дзвюхсот тысяч інжынераў, штогод амерыканскім бальніцам патрэбна каля чатырнаццаці тысяч лекараў. Амерыканскія медыцынскія акадэміі здольны даць у год не больш як сем тысяч лекараў. Значыць, другія сем тысяч трэба завербаваць, захаборыць лепшымі заробкамі, з краін Еўропы і свету.

Амерыканскія вярбоўшчыкі налаўчыліся адрозніваць таленавітыя індывідуальнасці сярод масы выпускнікоў еўрапейскіх вышэйшых школ. Так сказаць, маюць практыку ў тым. Але ўжываюць таксама і іншых, больш тонкіх метадаў вярбоўкі. Прызабліваюць спецыялістаў у Амерыку не толькі вульгарным аргументам высокіх заробкаў. Перш за ўсё, ствараюць ім магчымасці для эксперыментальных прац, развівання свайго таленту. І так, пакуль таленавіты выпускнік універсітэта ці палітэхнічнага інстытута знойдзе сабе адпаведную працу ў родным краю, хутка прапануюць яму стаж у адной са слынных амерыканскіх тэхнічных ці навуковых фірмаў. Калі кончыцца стаж, тады прапануюць высокааплачваемую працу і ўсялякія выгоды, кватэру і т.п.

Крадзёж талентаў павялічваецца з году ў год. Заходнееўрапейскія газеты ўзнялі шум з прычыны гэтага «крывацёку» найлепшых сіл нацый. Грамадскасць дамагаецца скарачэння ваенных выдаткаў, каб такім чынам стварыць лепшыя ўмовы сваім спецыялістам і вучоным.

Амерыканская «купля мазгоў» нагадвае тое, што мела месца некалькі стагоддзяў таму назад, калі гандляры рабамі з Вірджыніі ці Місісіпі добра плацілі за мускулістых неграў, патрэбных на плантацыях Поўдня. Даволі сцвердзіць, што ўжо цяпер кожны трэці амерыканскі лаўрэат Нобелеўскай прэміі ў галіне фізікі і хіміі паходзіць не з Амерыкі! А жа ж гэты працэнт, прапорцыя, павялічваецца хутка, агольваючы Заходнюю Еўропу з найбольшых таленавітых індывідуальнасцей.

Сапраўднае паляванне на розумы!

(а-ся)

## Чвэрць стагоддзя назад




На другі дзень вечарам сустрэўся я зноў са старшым лейтэнантам Нячаевым у вёсцы Шашылы ў хаце Юльяна Хількевіча.

— Ну, расказвай, як пайшло? — пытаўся Нячаеў.

— Усё ў парадку. Лічу, што Віт поўнасцю зламаны. Калі падамо яму руку, думаю, схопіць яе з прагнасцю. Дастаткова паабяцаць, што звернем яму дочкі...

— Ды дзе яны? Мы ж нічога пра іх не ведаем!

— Глупства, маем дачыненне з джэнтэльменам? Павінен паверыць у тое, што яму скажам. А над гэтым падумаем... Даў мне такую пісульку, — выняў я з пашпарту напісаную Вітам картку.

— Што гэта?

— Гэта? Жалезны пропуск. Колькі ён варты, цяжка сказаць. Але паперкі ў немцаў у асаблівай пашане. У выпадку чаго, заўсёды можна жандармерыі ўваткнуць пад нос.

— Мо гэта нейкая пастка?

— Якая там пастка. Быў падпіты, хацеў у вачах Косці праявіць вялікадушша.

Расказаў я Нячаеву, як праходзіла сустрэча і якія я вынес з яе ўражанні. Вызначылі мы далейшы план дзеяння, пастанаўляючы звербаваць Віта непасрэдна ў памяшканні Косці з суботы на нядзелю. У выпадку супраціўлення, Віт меў счэзнуць бясследна. Вывучылі таксама данясенні «Паўліка» з Беластока. З іх выходзіла, што ён там ужо прыжыўся, знайшоў Хведара Савіцкага. У Савіцкага былі людзі гатовыя на ўсё. З іх цяпер «Паўлік» з Савіцкім будавалі арганізацыйную сетку. Савіцкі знікнуў з нашага слоўніка, цяпер ён называўся «Таварыш Дуб». Праца ў Беластоку разгортвалася здзіўляюча хутка. Праз «Дуба» і «Паўліка» запусцілі мы свае шчупальцы ў розныя месцы. «Паўлік» уцягнуў да супрацоўніцтва савецкую грамадзянку Валю. Прозвішча не помню. Валя паходзіла з Мінска. Да вайны вучылася на трэцім курсе педагагічнага інстытута. У часе вайны апынулася ў Беластоку і працавала ў бюро Беларускага камітэта. Гэты камітэт выпускаў газету на беларускай мове «Новая дарога», пры дапамозе якой гітлераўцы намагаліся ўплываць на беларусаў, здабываць іх, супрацьстаўляць палякам. Гэтая арганізацыя згуртоўвала ў сваіх радах жменьку здраднікаў, беларускіх нацыяналістаў. Інспіратарам паклікання і дзейнасці гэтага камітэта было СД. Немцы назначылі ў Мінску «прэзідэнтам» Беларусі нацыяналіста Астроўскага. У Беластоку верхаводзілі пастаўленыя немцамі Хведар Ільяшэвіч, Лявон Хавенка і Тамашчык. Ільяшэвіч — стары нямецкі агент, звербаваны абверай яшчэ да 1939 года, працаваў у Вільні нямецкім шпіёнам. Калі немцы занялі Беласточчыну і Беларусь, з'явіўся ў Беластоку. Утрымліваў блізкую сувязь з гаўптштурмфюрэрам СС Гаўсманам, кіраўніком III аддзялення (або СД) беластоцкай паліцыі бяспекі, а таксама з кіраўніком нахрыхтэн абтэйлюнг, капітанам СС Альфонсам Шмідтам (аддзяленне вестак, або агентурнай працы). Рукамі здраднікаў і гестапаўскіх наймітаў, якія адыгрывалі кіруючую ролю ў гэтым нацыяналістычным камітэце, беластоцкае СД змантавала ў пачатку акупацыі дэлегацыю, якая выехала ў Берлін, каб уручыць Гітлеру вернападданіцкую дэкларацыю ад імя беларусаў. Але беларускае насельніцтва не далося атуманіць гітлераўскай прапагандзе, не памаглі таксама намаганні гітлераўскай агентуры. Стыхійна ўзнікалі антыфашысцкія камітэты, найбольш ахвярныя ішлі ў партызанскія атрады, змагаліся. Беларускае насельніцтва Беласточчыны ў выніку сувязі крыві, мовы, звычаяў і часткова культуры, вязала свой лёс з усім беларускім народам, ненавідзела гітлераўцаў, аказвала масавую дапамогу партызанам.

Гітлераўцы, бачачы безвыніковасць сваіх пачынанняў, прымянілі ў адплату масавы тэрор. Зраўнялі з зямлёй 38 беларускіх вёсак навокал Белавежскай пушчы, сцерлі з паверхні вёску Райск у Бельскім павеце.

Маючы гэта на ўвазе гэтае гняздо здраднікаў, гэты нацыяналістычны Беларускі камітэт — Аб'яднанне цікавіў нас асабліва. Праз Валю, якая працавала там у якасці сакратаркі-машыністкі, знаёміліся мы з кулісамі дзейнасці здраднікаў. Гэта аблятчала нам арганізаваць дзейснае супрацьдзеянне.

Таварышы Савіцкі («Дуб») і «Паўлік» уцягнулі да супрацоўніцтва савецкую грамадзянку, жонку капітана Чырвонай Арміі, Людмілу Іванаўну Філіну, якая паходзіла з горада Кальчугіна, жонку савецкага афіцэра Таццяну Хахлову. Абедзве жылі ў Беластоку на вуліцы Рыбны рынак, у доме нумар 1.

# ТРЫБУНА чытачоў

## ҐРН У БЕЛЬСКУ

У выніку адміністрацыйных змен тэрыторыі ў павеце Бельскім у самым Бельску ўтварылася ГРН. У склад яе ўвайшлі вёскі былой ГРН Аўгустова і вёскі Галады, Парцава, Грынявічы, Праневічы, Катлы, Бела. Павятовыя ўлады кіраваліся пры ўтварэнні гэтай грамадскай рады тым, што жыхары гэтых вёсак амаль усе гаспадарчыя справы ўладжвалі ў горадзе Бельску. Другога студзеня адбылася арганізацыйная сесія радных, на якой выбралі прэзідыум. Кіраваць працай рады ў выніку выбараў даручылі Рыгору Скарбіловічу з Аўгустова. У склад прэзідыума ўвайшлі Павел Асташэвіч, Тэодар Сычэўскі, Мікалай Ігнатовіч, Міхал Кужаль. З першых дзён студзеня г.г. грамадская рада ў Бельску пераняла абавязкі кіравання ўсімі справамі жыцця гэтых вёсак. Сядзібай прэзідыума з'яўляецца будынак, у якім месціцца Аддзел камунікацыі ў Бельску на вуліцы Казімежоўскай.

**К. С.**
**Катлы**

## ШУКАЮ ЦЁЦІ

Мая цёця праўдападобна жыве ў Беластоцкім павеце. Яна выйшла замуж, і якое яе цяпер прозвішча, я не ведаю. А яе дзявочае прозвішча Бжазоўская. Прозвішча яе брата, а майго памёршага бацькі — Бжазоўскі Збігнеў. Нарадзіўся ён у Варшаве ў 1924 годзе.

Для большай арыентацыі падаю прозвішча бацькоў майго бацькі, а менавіта: Бжазоўскі Эдвард, маці — Цэцылія з дому Павляк. Мой бацька Збігнеў Бжазоўскі ад 1945 да 1950 года жыў у Быстшыцы Клодзкай.

Мой адрас — Мар'ян Бжазоўскі, Пшысеч 25, павет і ваяводства Апольскае.

## МЕХАНІЗАЦЫЯ НА САКОЛЬШЧЫНЕ

У Сакольскім павеце налічваецца зараз 198 сельскагаспадарчых гуртkoў, якія аб'ядноўваюць 5470 гаспадароў. Гэтыя гурткі карыстаюцца 167 трактарамі з поўнымі камплектамі сельскагаспадарчых машын да апрацоўкі зямлі. Гуртkоўцы маюць 420 збожжавых сеўнікаў і амаль столькі ж малацільных агрэгатаў. (МС)

## У СТРАШАВЕ

Адной з лепшых святліц у Беластоцкім павеце з'яўляецца святліца ў Страшаве. Светліцовай працуе тут Зіна Лебядзінская, якая ўмее добра арганізаваць культурна-асветную працу.

У страшаўскай святліцы заўсёды людна. Асабліва вечарам збіраецца сюды многа людзей. Прыходзяць яны заўсёды паслухаць апошнія паведамленні (дзённік) і, вядома, на цікавыя фільмы. Асабліва ўсім падабаецца Клёс, і гэтыя фільмовыя тэлеперадачы карыстаюцца найбольшай папулярнасцю. **(XX)**

---

Здабылі да супрацоўніцтва таксама савецкую грамадзянку Веру Пракоф'еву, якая працавала ў кухні сольдатэнгайму і Вольгу Басінскую. Уцягнуты быў да супрацоўніцтва інжынер Вэндэ, які працаваў у беластоцкім тэкстыльным трэсце. Пасля вярбоўкі, праводзіў ён у беластоцкай тэкстыльнай прамысловасці сабатаж у шырокіх маштабах, умела зніжаючы вытворчасць. Савіцкаму ўдалося ўладкаваць у Прэзідыум паліцыі на вуліцы Палацовай Аляксея Сідарука, жыхара Беластока, які дастаўляў нам потым планы будынка, размяшчэнне кабінетаў, тэлефонныя спіскі, спіскі пасад эсэсаўцаў і г.д. «Паўлік» звербаваў да супрацоўніцтва беластачаніна Прыпанюка. Перарабілі мы яго пашпарт на прозвішча Прыпонігэр, змянілі нацыянальнасць. Цяпер ён стаў райхсдойчам. Удалося яму атрымаць працу ў сольдатэнгайме на вуліцы Ліповай. Прыпанюк адначасова належаў да АК, але прад камандваннем АК утойваў сувязі з намі. Мы спрабавалі выкарыстаць яго ў наладжанні сувязі з АК у Беластоку. Адмовіўся катэгарычна, сцвярджаючы, што гэта пагражае яму непрыемнымі паслядоўнасцямі. Сістэматычна дастаўляў нам Інфармацыйны бюлетэнь АК, а таксама іншую літаратуру.

Такім чынам у неспадзявана хуткім тэмпе разгортвалася наша сетка ў Беластоку.

**Ян Анацік**



Галіна Трахімчук.

## ВЕСТКІ З НОВАЙ ВОЛІ

Новая Воля — вёска ў Беластоцкім павеце. Гэтая вёска налічвае больш 150 гаспадароў, якія пераважна займаюцца гадоўляй свіней. Жывуць заможна. У вёсцы ёсць новая школа і малачарня. Жыхары вёскі часта наракаюць, што няма клуба-кавярні і што газетны кіёск мала калі адкрыты, а моладзь наракае на тое, што ў так вялікай вёсцы няма святліцы. Нядзелі і сяточныя дні моладзь праводзіць пры бутэльцы чыстай.

У Новай Волі ёсць стражацкая раміза. У такім яна стане, што хутка трэба будзе падпіраць калкамі. Дах працякае, а стражацкія прылады нішчацца. Ніхто тут не праяўляе клопатаў, каб яе падрамантаваць. А магла б яна таксама быць цэнтрам развіцця культурна-асветнай працы.

**Л. Л.**
**Плёскі**




**Дарагое Сэрцайка!** Што мне зрабіць, як паступіць, не ведаю сама. Да мяне пасватаўся прыгожы хлопец, хоча са мной ажаніцца. У яго і хата і гаспадарка добрыя. Але зноў там сям'я вялікая. З Генікам у адной хаце жывуць бацькі, бабка яго і дзве малодшыя сёстры. Людзі кажуць мне, каб я не выходзіла за Геніка замуж. А гэта таму, што адну чужую асобу «загрызуць» усёю сям'ёю. А яшчэ ходзяць слухі, што мая будучая цёшча даволі сварлівая жанчына

**Клаўдзія Р. з Бельскага павета.**

Усё будзе залежыць найбольш ад цябе, ад тваіх паводзін, ад тваіх адносін і да Геніка, і да яго маці, і да іншых членаў сям'і. Асноўнае — гэта разважнасць, тактоўнасць. Няма патрэбы адразу ўстанаўляць свае парадкі ў новым доме. А вельмі часта так бывае, што нявестка не мае пашаны да цёшчы, да той асобы, якая нарадзіла і выхавала яе мужа. І тады пачынаюцца розныя непаразуменні. Бацькі кожнага сына ніколі не жадаюць, каб было яму дрэнна, каб кепска жылося з жонкаю. Але адначасова бацькі сына не жадаюць ды і не дапускаюцца, каб іх нявестка зневажала, абгаворвала, не была ветлівай да іх. Гэтым не хачу сказаць, што бываюць толькі нявесткі прычынаю нязгоды і «пекла» ў хаце. Бывае і так, што нявесткі ў гэтым не вінаваты. Нязгода такая бывае, але гэта не значыць, што нельга яе пазбегнуць. Ведаю многа такіх прыкладаў, што нявесткам вельмі добра і вельмі лёгка жывецца ў такіх сем'ях.

Раю смела выходзіць за Геніка замуж і не зважаць на балтаўню людскую. Сямейнае шчасце найбольш залежыць ад цябе, ад тваіх адносін да ўсіх членаў сям'і.

**Сэрцайка**

## ДРАМГУРТОК З МЕЛЯШКОЎ

У асноўным для вясковых самадзейнікаў у падрыхтоўцы той ці іншай п'есы дапамагаюць настаўнікі. А вось у Меляшках (Беластоцкі павет) ролю рэжысёра паспяхова выканала маладая дзяўчына Галіна Трахімчук. Пад яе кіраўніцтвам моладзь падрыхтавала п'есу Уладзіміра Цілюлькі і Яўгенія Блізнюка «10 гектараў». З гэтай п'есай аматары з Меляшкоў выступілі ў сваёй і суседніх вёсках.



**Падрыхтоўка перад выхадам на сцэну. Трэба ж так выглядаць, як гэта прадбачана аўтарамі п'есы.**
**Тэкст і фота: М. Хмялеўскі**

## «ПАДЛЯСЯК»

Паляўнічы гурток «Падлясяк» у Бельску Падляшскім ужо шмат год займаецца паляўнічай гаспадаркай. Гурток арандуе тры паляўнічыя абводы, у якіх налічваецца больш 10 тыс. га. Ёсць у гэтым раёне козы, зайцы, курапаткі і дзе-нідзе качкі.

Члены паляўнічага гуртка кожны год сеюць на спецыяльных палетках шмат такіх культур, якія зімою выкладваюцца на поле і служаць кормам для звярыны. Гурток зрабіў 35 кармушак для курапатак і больш 100 для зайцаў і коз. Сюды курапаткам сыплецца паслед, а для зайцаў і коз укладваецца ў кармушкі сена і канюшыну. Звярынай апякуецца трох стражнікаў, якія знішчаюць драпежнікаў, пільнуюць браканьераў (клусаўнікоў), развозяць корм.

Асабліва добра вывязваецца са сваіх абавязкаў стражнік Генрых Грынявіцкі. Пры яго дапамозе быў выкрыты браканьер з Плюціч, у якога ў час рэвізіі знойдзена мяса і скуру з дзікай казы. У абводзе стражніка Грынявіцкага кожны год арганізоўваецца адлоў жывых зайцаў. Нядаўна злоўлена іх аж 245 штук. Члены гурткоў у кожным паляўнічым сезоне адстрэльваюць больш 700 зайцаў і прыкладна каля 35 коз. У касу гуртка кожны год уплываюць вялікія сумы грошай. Усе члены гуртка купілі нават аднолькавае паляўнічае адзенне.

**Веслаў Фалькоўскі**
**Бельск Падляшскі**

## БЕЛЫЯ КАНІКУЛЫ

Зімнія канікулы школьнікаў на Бельшчыне праходзілі даволі цікава. Лыжы, канькі, санкі былі ў вялікім руху. Школьныя каткі належна выкарысталіся. Маем тут на думцы перш за ўсё каткі пры пачатковых школах № 1 і № 3 у Бельску, а таксама пры школах у Орлі і Боцьках. Былі там арганізаваныя ігры, навука катання на каньках.

У школах пад кіраўніцтвам настаўніка праводзіліся цікавыя вечарыны, а таксама школьнікі рыхтаваліся да навагодніх ёлак.

Гарцэрскія і зуховыя дружыны бралі ўдзел у конкурсе «Алімпійская зіма». Пры дапамозе сваіх дружыновых праводзілі цікавыя заняткі і спартыўныя конкурсы.

Шмат гарцэраў вяло нагляд над дарогамі. Калі было слізка, пасыпалі дарогі пяском і попелам. А зноў некаторыя гарцэрскія дружыны апекаваліся птушкамі і дзікай звярынай, якая заўсёды зімою галадае. Павятовы аддзел ТПД (Таварыства прыяцеляў дзяцей) у Бельску арганізаваў у інтэрнаце агульнаадукацыйната ліцэя лагер (зімовіска) для дзяцей пачатковых школ. Больш 70 вучняў вучылася рыхтаваць цікавыя мерапрыемствы арганізоўваць рысунковыя і спартыўныя конкурсы. Удзельнікі гэтага лагера ездзілі таксама на экскурсію ў Варшаву.

**Ф. В.**
**Бельск**

## СЯЛЯНСКАЯ ПАРТЫЯ

ЗСЛь на Сакольшчыне рыхтуецца да свайго чарговата справаздачна-выбарчага з'езда. На працягу мінулых двух год Павятовы камітэт ЗСЛь арганізаваў 12 новых гурткоў, між іншым, у такіх вёсках як Немчын, Шацілы, Гаршчызна. За гэты перыяд утвораны 4 новыя камітэты ЗСЛь у грамадах, а менавіта ў Гуранах, Белавусах, Крынках і Старой Разадранцы. На свой XV з'езд, які адбудзецца ў канцы студзеня, сакольская арганізацыя ЗСЛь будзе налічваць больш як 1000 членаў. **(ММ)**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Spacer po linie" (ang.), 28—29.I. „Ktoś obok ciebie" (NRD), 30—31.I. „Rękopis znaleziony w Saragossie" (polski), 1—2.II.

**Дубіны**

„Cerwone berety" (polski), „Gdzie jest generał" (polski), 1—2.II.

**Нараўка**

„Skarb bizantyjskiego kupca" (czeski), „Nikt nie chciał umierać" (radz.), 29.I—2.II.

**Нарва**

„Byłam głupią dziewczyną" (węgierski), „Przed wojną" (jugosłowiański), 29.I—2.II.

**Чыжы**

„Trzydzieści trzy" (radz.), „Noc bez końca" (bułg.), 29.I—2.II.

**Дубічы Царкоўныя**

„Sabrina" (USA), „Największe widowisko świata" (USA), 29.I—2.II.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Mój przyjaciel Delfin" (USA), „Mocne uderzenie" (polski), 29.I—2.II.

**Орля**

„Film z czarującą dziewczyną" (rumuński), „Falstaff' (hiszpański), 29.I—2.II.

**Райск**

„Sobótki' (polski), „Ach ci młodzi" (węgierski), 29.I—2.II.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Agnieszka 46" (polski), „Dzień w którym wypłynęła ryba" (grecki), 28.—31.I.

**Міхалова**

„Opowieść z nad Donu" (radz.), 28.—29.I. „Drugi człowiek" (polski), 30.—31.I. „Więzy" (węgierski), 1—2.II.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Gangster i urzędnik" (USA), 28—29.I. „Partyzant z Lelejskiej góry" (jugosł.), 30—31.I. „Ostatni po Bogu" (polski), 1—2.II.

**Шудзялава**

„Poranki młodości" (rumuński), „Romanca na trąbkę" (czeski), 29.I—2.II.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Paryż — Warszawa bez wizy" (polski), „Jak się pozbyć Helenki" (polski), 29.I—2.II.

**Новы Двор**

„Największe widowisko świata" (USA), „Porucznik jazdy" (radz.), 1—2.II.

**Ліпск**

„Pamiętnik pani doktór" (francuski), „Julia, Anna, Genowefa" (polski), 1—2.II.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 6571

